# СВАБОДА

6 кастрычніка 1995 г.

№40

Кошт свабодны


# Чарнамырдзін — Лукашэнку: „Это же вам не колхоз“

## Цікавыя падрабязнасьці пра нядаўнія ваяжы беларускага прэзідэнта

Не атрымаўшы ад Расеі прыкметнай падзякі за руплівасьць у справе правядзеньня рэфэрэндума, прэзідэнт Лукашэнка вымушаны генэрыраваць усё новыя ідэі, здольных, на ягоную думку, выклікаць у „старэйшага брата“ пачуцьцё падзякі. Апошняй з такіх ідэяў стала ініцыятыва па стварэньні беларуска-расейскай канфэдэрацыі.

Аналітыкі мяркуюць, што такая мэтанакіраванасьць Лукашэнкі тлумачыцца ня столькі ірацыянальнымі катэгорыямі, да якіх адносіцца ідэя славянскай еднасьці, колькі абсалютна канкрэтным жаданьнем прэзідэнта Беларусі атрымаць максімум як эканамічных, так і палітычных выгодаў. Доказ таму: амаль безвыніковая паездка Лукашэнкі ў Маскву і Сочы. Калі раней Лукашэнка быў гатовы "братацца" амаль задарма, то цяпер ён вырашыў з гэтага нешта мець. Але, як высьвятляецца, расейскае кіраўніцтва гэты крок нашага "прагматыка" успрыняло з пачуцьцём вялікага скепсісу.

Крыніца з адміністрацыі беларускага прэзідэнта, якая пажадала застацца невядомай, паведаміла карэспандэнту СВАБОДЫ некаторыя падрабязнасьці перамоваў Лукашэнкі ў Маскве, Сочы і Кіеве. Як высьвятляецца, у расейскай сталіцы А.Лукашэнку на ўзроўні расейскага прэм'ера было заяўлена, што Масква выстаўляе шэраг умоваў. Адна з якіх: ініцыятыва канфэдэрацыі павінна трактавацца выключна як ініцыятыва Крамля. Аляксандар Лукашэнка быў з гэтым катэгарычна нязгодны, заявіўшы, што народ галасаваў за яго як за "собирателя славянских земель". Па інфармацыі крыніцы, Віктара Чарнамырдзіна вельмі зьбянтэжыла прапанова Лукашэнкі аб далейшым разьдзеле "пасады лідара аб'яднанай дзяржавы". Беларускі прэзідэнт з уласьцівай яму прастатой прапанаваў варыянт, пры якім адзін год кіруе ён, а другі — расіянін, а потым яны мяняюцца. Рэакцыя расейскага прэм'ера была вельмі трапнай: "Это же вам не колхоз", — заявіў Віктар Чарнамырдзін.

Даволі цікавымі ўяўляюцца планы, якія тычацца далейшага лёсу войска аб'яднанай дзяржавы. Беларускае войска было прапанавана перайменаваць у Заходнюю акругу. Незразумелымі пакуль застаюцца настойлівыя прапановы Уладзімера Замяталіна (ён уваходзіў у склад беларускай дэлегацыі) прызначыць камандуючым Заходняй акругі аднаго з лідараў Кангрэса рускіх абшчын адстаўнога генэрала Аляксандра Лебедзя. Хутчэй за ўсё гэтая кандыдатура ўсплыла пасьля сустрэчаў Замяталіна з лідарам Кангрэсу рускіх абшчын Юрыем Скокавым.

Акрамя гэтага, даволі пасьпяхова вяліся перамовы з былым старшынём Цэнтрабанка Расеі Віктарам Герашчанкам, якому была прапанаваная вакантная пасада старшыні Нацбанка Беларусі. Крыніца сьцьвярджае, што сп.Герашчанка даў ужо сваю згоду. Нядаўная адстаўка Станіслава Багданкевіча з пасады старшыні Нацбанка ў сьвятле мяркуемага прызначэньня выглядае даволі значным доказам таго, што сыход Багданкевіча стаў прэвентыўнай мерай. Узгадаўшы прынцыповую пазіцыю Багданкевіча падчас аб'яднаньня грашовых сістэм, палічылі, што ён мог элемэнтарна адмовіцца паставіць свой подпіс пад адным з дакумэнтаў, патрэбных для стварэньня канфэдэрацыі. Дарэчы, сам Багданкевіч такой вэрсіі сваёй адстаўкі не выключае.

Пры разглядзе лёсу парламанцкіх выбараў у Беларусі, быў прапанаваны варыянт пры якім парламанцкія выбары пераносіліся б на сьнежань. Гэта дало б магчымасьць адначасова правесьці парламанцкія выбары ў абедзьвюх дзяржавах. Акрамя гэтага планавалася, што дэпутаты ад Беларусі будуць абірацца ня толькі ў беларускі парламант, але і ў парламант аб'яднанай дзяржавы. Гэты парламант, апроч іншага, займаўся б уніфікацыяй беларуска-расейскіх заканадаўстваў. Цікава, што з ініцыятывай пераносу парламанцкіх выбараў у Беларусі на сьнежань павінна была выступіць Партыя народнай згоды.

Даволі балюча ўспрыняў расейскі прэм'ер эканамічныя патрабаваньні, якія выставіў беларускі бок: усе запазычанасьці Беларусі за расейскія энэрганосьбіты, у выпадку аб'яднаньня, аўтаматычна здымаюцца, а нафта і газ працягваюць паступаць у Беларусь, але ўжо па льготным кошце. Калі ўлічыць, што падчас перамоваў з Лукашэнкам вочы ў Чарнамырдзіна сталі большыя за акуляры, а пра канкрэтныя ініцыятывы беларускага прэзідэнта ён увогуле чуў упершыню, то адпраўка прэзідэнта Лукашэнкі ў Сочы да Ельцына выглядае даволі лагічным крокам.

Ельцын, па сьцьверджаньні крыніцы, доўга сумняваўся ці прымаць Лукашэнку. І толькі знайшоўшы прычыну, якая магла б астудзіць імпэт "славянского собирателя", Ельцын пагадзіўся на сустрэчу. Такой нагодай стаў выданы Лукашэнкам карт-бланш аб далучэньні да канфэдэрацыі Украіны. Ельцын нават паабяцаў, што калі Лукашэнка здолее ўцягнуць у канфэдэрацыю Украіну, Расея заплюшчыць вочы на наступленьне дыктатуры ў Беларусі. Абсурднасьць ідэі далучэньня Украіны была відавочная адразу, і як жа зьдзівіўся Барыс Мікалаевіч, калі Лукашэнка, успрыняў яе ўсур'ёз і накіраваўся ў Кіеў.

Ва ўкраінскай сталіцы прэзідэнта Беларусі адаслалі прыкладна туды ж, куды ў Маскве і Сочы. З той толькі розьніцай, што Масква, у адрозьненьні ад Кіева, канчатковае "не" казаць пакуль не сьпяшаецца.

**Якуб ПАЎЛОВІЧ**

## Што стаіць за кадравымі перастаноўкамі

*стар. 2*

## Ацэнкі і прагнозы эліты

*стар. 6*

## Да чытачоў

Нарэшце мы можам паведаміць падпісчыкам прыемную навіну: з 10 кастрычніка СВАБОДА пачне выходзіць два разы на тыдзень — у аўторак і пятніцу. Аднак два нумары будуць атрымліваць **толькі падпісчыкі.** У розьнічны продаж аўторкавы нумар паступаць ня будзе. Рэч у тым, што рэалізацыя газэты праз "Саюздрук" прыносіць нам значныя страты, бо з кожнага нумара ў нас забіраюць амаль 60% кошту.

*Такім чынам, калі вы жадаеце атрымліваць СВАБОДУ двойчы на тыдзень, завітайце да 15 кастрычніка на пошту, дзе ў вас прымуць падпіску на лістапад і сьнежань. Гэта каштуе ўсяго 14 тысяч рублёў. Падпісны індэкс СВАБОДЫ 63887.*

Дарэчы, і пятнічны нумар усё цяжэй будзе купіць у кіёску (асабліва ў правінцыі), па той прычыне, што мы вымушаныя зьмяншаць розьнічны продаж з прычыны стратнасьці гэтай справы.

*РЭДАКЦЫЯ*


**Год заснаваньня 1902**
**Выходзіць з 1990**

**Галоўны рэдактар Ігар Германчук**
**Заснавальнік Павал Жук**
**Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd.“**

**Наклад 93 000**



**Адрас рэдакцыі:**
**220088, Менск, вул. Іванаўская, 56**

**Тэл./факс 36-24-41**


# Вашынгтон абураны

**У аўторак, 3 кастрычніка, ЗША рэзка адрэагавалі на выказваньне прэзідэнта Лукашэнкі, быццам беларускія вайскоўцы невінаватыя ў забойстве двух амэрыканцаў — навігатараў паветранага шару.**

Прэс-сакратар Дзярждэпартаманту ЗША Нікалас Бэрнс заявіў, што камэнтар Аляксандра Лукашэнкі падчас тэлевізійнага выступу ў панядзелак не вытрымлівае ніякай крытыкі. "Усіх амэрыканцаў балюча кранае любая заява, у якой спрабуюць адвесьці віну за забойства двух амэрыканскіх грамадзянаў", — сказаў Бэрнс.

У мінулым месяцы два ўдзельнікі гонак паветраных шароў былі зьбітыя ваенна-паветранымі сіламі Беларусі, бо, як патлумачыў беларускі бок, не адказвалі на радыёзапыты і папярэджаньні. Яшчэ чацьвёра амэрыканскіх навігатараў былі неапраўдана затрыманыя. Тады Белы Дом і Дзярждэпартамант з недаверам успрынялі заявы беларускага боку, што навігатары ігнаравалі загад прызямліцца. Беларускія ўлады крытыкаваліся таксама за нежаданьне прынесьці прабачэньні.

На мінулым тыдні, здавалася, інцыдэнт пачаў згладжвацца. Міністар замежных справаў Беларусі Уладзімер Сянько сустрэўся ў Вашынгтоне з прадстаўнікамі адміністрацыі, у тым ліку з намесьнікам дзяржсакратара Стробам Тэлбатам. Інцыдэнт з шарам, без сумненьня, стаяў на парадку дня перамоваў, але ніякіх камэнтараў не паступала.

Такім чынам, заява Лукашэнкі ў панядзелак сталася нечаканасьцю і імгненна выклікала рэакцыю абурэньня. Нікалас Бэрнс абверг сьцьверджэньне Лукашэнкі, быццам арганізатары спаборніцтваў не прадставілі Беларусі адпаведных заявак на пралёт шара, заявіўшы, што гэта няпраўда. "Віна ляжыць на беларускіх уладах, на людзях, якія дзейнічалі ад імя Беларусі", — падкрэсьліў прадстаўнік Дзярждэпартаманту. Ён адзначыў, што калі б нават адпаведны дазвол ня быў атрыманы, няма апраўданьня зьбіцьцю паветранага шара ў 1995 годзе.

Бэрнс адхіліў пытаньне журналістаў, з якога вынікала, што Беларусь займае больш жорсткую пазіцыю ў дачыненьні да ЗША, каб дагадзіць Расеі. Ён заявіў, што інцыдэнт ня мае ніякага дачыненьня да Расеі і было б нясправядліва "зьвязваць расейскія ўлады альбо расейскі народ з такога кшталту абуральнымі паводзінамі".

Прадстаўнік Дзярждэпартаманту сказаў, што расейскі ўрад ня можа рабіць заявы, падобныя да зробленай Лукашэнкам. Бэрнс таксама заявіў, што інцыдэнт несправядліва пераносіць на ўвесь беларускі народ. Ён нагадаў, што "шмат беларусаў зьвярталіся ў амэрыканскае пасольства ў Менску, каб сказаць, што яны ў жаху, прыносяць прабачэньні і выступаюць супраць таго, што здарылася".

Бэрнс заявіў, што беларускія ўлады "мусяць зьвярнуцца да фактаў гэтага выпадку: гэта значыць, што ўлады нясуць адказнасьць за сьмерць двух амэрыканцаў, што яны маюць абавязацельства правесьці поўнае расьсьледваньне інцыдэнту, што яны павінны даць сем'ям забітых тлумачэньне і прынесьці прабачэньні, што абавязак уладаў перад міжнароднай супольнасьцю — прыняць усе меры перасьцярогі, каб зьмяніць існуючыя інструкцыі: выкараніць стандартныя апэрацыйныя працэдуры, якія дзейнічаюць з савецкіх часоў, і зрабіць напэўна так, каб падарожнікі ў Беларусь альбо праз паветраную прастору Беларусі не баяліся стацца аб'ектам якога-небудзь інцыдэнту часоў халоднай вайны".

Калі журналісты запыталіся Бэрнса, ці бясьпечна лётаць праз Беларусь, прадстаўнік Дзярждэпартаманту адказаў: "Улады Беларусі павінны несьці адказнасьць за забесьпячэньне найлепшых магчымых мераў бясьпекі для кожнага падарожніка праз Беларусь. Але беларускія ўлады не пераканалі нас у гэтым".

Адхіліўшы магчымую сувязь выказваньняў беларускага кіраўніка з Масквой, прэс-сакратар Дзярждэпартаманту падкрэсьліў: "Зробленыя заявы трэба непасрэдна зьвязваць з прэзідэнтам Лукашэнкам. І яму трэба падумаць пра уражаньне, якое гэтыя выказваньні робяць на наш урад, і уплывам, які яны будуць мець на нашыя ўзаемаадносіны".

# Мечыслаў Грыб: "Я гэтага не падтрымліваў і падтрымліваць ня буду"

## Так заявіў старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі ў інтэрвію з нагоды заявы Савету Фэдэрацыі Расеі аб рэфэрэндуме па аб'яднаньні Расеі і Беларусі

**— Спадар старшыня, як бы вы пракамэнтавалі заяву Савету Фэдэрацыі Расеі аб правядзеньні рэфэрэндума па паглыбленьні эканамічнай і палітычнай інтэграцыі Расеі і Беларусі?**

— Кожная краіна мае правы праводзіць рэфэрэндумы па пытаньнях, якія не пярэчаць яе заканадаўству і ў якіх зацікаўленыя людзі, але мы, калі праводзілі рэфэрэндум, ставілі пытаньне ня ў той плоскасьці, якую прапануе Савет Фэдэрацыі Расеі. Мы пыталіся: "Вы за пашырэньне эканамічнай інтэграцыі з Расеяй ці не". Нашыя людзі адказвалі "так", у тым ліку і я. Але зараз Савет Фэдэрацыі Расеі ставіць пытаньне шырэй: вы за эканамічную і палітычную інтэграцыю? Эканамічная інтэграцыя — гэта зразумела, але што такое палітычная? Дзе яе пачатак, дзе канец? Можна па рознаму разумець, у тым ліку і як аб'яднаньне двух дзяржаваў у адну. Але калі маецца на ўвазе такое шырокае тлумачэньне, то гэта супярэчыць нашай Канстытуцыі, якая сьцьвярджае, што Рэспубліка Беларусь — гэта ўнітарная, суверэнная, незалежная дзяржава. А ўсё што супярэчыць Канстытуцыі, мною адназначна адхіляецца. Я гэта не падтрымліваў і падтрымліваць ня буду.

Яшчэ адзін момант адзначу. Мне здаецца, што не зусім карэктна паступаюць нашыя суседзі, калі прапануюць выносіць на рэфэрэндум пытаньне, якое супярэчыць Канстытуцыі суседняе дзяржавы.

**— Вы не выключаеце, што гэта пачатак розыгрышу беларускай карты напярэдадні выбараў у Расеі?**

— Не выключаю. Сапраўды да гэтага прыцягваецца ўвага, у тым ліку і такім сродкам, каб зрабіць рэфэрэндум у дзень выбараў. Мы свой рэфэрэндум таксама зрабілі ў дзень выбараў і цяпер я прыходжу да высновы, што мы дапусьцілі памылку. Ад гэтага пацярпелі выбары, бо ўсю ўвагу аддалі рэфэрэндуму. Дарэчы, да такой жа высновы прыйшлі і аглядальнікі з міжпарламанцкіх групаў, у тым ліку і Рады Эўропы.

**— Як Вы ацэньваеце ролю прэзідэнта Беларусі ў гісторыі са зьяўленьнем заявы Савета Фэдэрацыі Расеі? Ці не здаецца Вам, што гэта ў нейкім сэнсе адказ на ягоную ініцыятыву, якая была выказана падчас апошняга візіту ў Маскву і Сочы?**

— Мне цяжка гэта ацэньваць, бо паездкі прэзідэнта ў Маскву, Сочы, Кіеў са мной не ўзгадняліся і я аб іх даведаўся, як і ўсе астатнія, з паведамленьняў у прэсе. Пасьля гэтых паездак я таксама ніякай дадатковай інфармацыі ня меў.

**Запісаў**
**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## Зброю ўсёж пачынаюць рэзаць

**Як паведамілі ў Нацыянальным агенцтве па кантролі і інспэкцыях, 15 кастрычніка Беларусь прыступіць да зьнішчэньня зброі згодна з Дамовай аб звычайных узбраеньнях ў Эўропе.**

У гэты ж дзень на Барысаўскім танкарамонтным заводзе плануюць пачаць адгрузку брані ў ФРГ — у адпаведнасьці з раней заключаным кантрактам на пастаўку 20 тыс. тон мэталалому. Прадстаўнік заводу днямі адпраўляецца ў Нямеччыну для адбору абсталяваньня (дызэльныя пагрузчыкі і г.д.), каб у тэрмін завяршыць зьнішчэньне зброі. На гэтыя мэты нямецкі бок выдзеліў 60 тысяч дойчэмарак.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Іван Антановіч рыхтуецца ў дыпламаты

**Вядомы камуністычны дзеяч Іван Антановіч рыхтуецца заняць крэсла ў зьнешнеэканамічным ведамстве Беларусі.**

Паводле неафіцыйных зьвестак, прэзідэнт Лукашэнка ўжо падпісаў указ аб прызначэньні Івана Іванавіча намесьнікам міністра замежных справаў. Ён заменіць на гэтай пасадзе цяперашняга намесьніка міністра Пятра Бяляева, які хутчэй за ўсё будзе накіраваны паслом у Бон.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ Іван Антановіч сказаў, што "прэзідэнцкага ўказу пакуль ня бачыў", але ня супраць атрымаць гэтую "прыемную і цікавую пасаду".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Зарплату будуць абмяжоўваць

**Прэм'ер-міністар М.Чыгір лічыць, што на многіх дзяржаўных прадпрыемствах выплочваецца "завышаная зарплата".**

Пра гэта ён заявіў на паседжаньні "Клуба дырэктараў". Паводле словаў прэм'ер-міністра, сёлета зарплата на прадпрыемствах прамысловасьці вырасла да 80 даляраў, а ў жніўні склала 90 USD. Тым часам аб'ёмы вытворчасьці наадварот зьнізіліся. М.Чыгір паведаміў, што рыхтуецца ўказ прэзідэнта, які абмяжуе памеры зарплаты для тых дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў, якія маюць даўгі. Бо нельга сёньня, адзначыў прэм'ер, "раскідвацца грашыма".

**Міхась ВОЙНА**

## Скарачаць пачалі з шафёраў

**На паседжаньні Магілёўскага аблвыканкаму абмяркоўвалася пытаньне аб выкананьні загаду прэзідэнта Беларусі па скарачэньні апарату кіраваньня.**

Удзельнікі паседжаньня прыйшлі да высновы, што скарачаць кадры належыць за кошт штату народнай адукацыі, культуры і шафёраў аблвыканкаму.

***СІМ***

## Бункер для старшыні

**У лесе ў Камянецкім раёне Берасьцейскай вобласьці, дзе да 1993 года дыслакавалася адна з расейскіх вайсковых частак, цяпер распачалі маштабныя будаўнічыя работы.**

Сіламі будаўнічых брыгадаў з Маларыты, Пружанаў і Кобрыні ўзводзіцца комплекс будынкаў, дзе прыблізна ў 1996 годзе пачне працаваць санаторый для асобаў, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на ЧАЭС. Адначасова на тэрыторыі, якая знаходзіца пад аховай, у адной з армейскіх спэцпабудоваў абсталёўваюцца рабочыя апартамэнты для старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму Ўладзімера Заламая. Іх мяркуецца выкарыстоўваць у выпадку надзвычайных сітуацый у рэгіёне.

***СІМ***

## У Ваўкавыску абрабавалі нямецкую фірму

**Гэтае злачынства можна ахарактарызаваць як адно з найбольш дзёрзкіх.**

У чацьвер, 28 верасьня, каля 10-й гадзіны раніцы, у офіс фірмы "Арго-Беноба", якая будуе ваенны гарадок у мястэчку Рось, зайшлі двое невядомых. Выхапіўшы з-за пазухі пісталеты, яны прымусілі фінансіста фірмы адчыніць сэйф і ўласнаручна перакласьці каштоўнасьці ў іхны сакваяж. Потым зьвязалі гаспадара кабінэта — і зьніклі. Рабаўнікі прыхапілі з сабою 80 000 дойчэмарак і 70 млн. беларускіх рублёў. Міліцыя шукае злачынцаў, але пакуль што марна.

**С.С.**

## Гумовыя боты выйшлі з моды

**Спынены Крычаўскі завод гумовых вырабаў.**

Склады прадпрыемства забітыя прадукцыяй. Гумовы абутак (галёшы і боты) нават па зьніжаных цэнах гандаль амаль не прымае. Рабочыя ўскладалі надзеі на італьянскую лінію па вытворчасьці спартовага абутку, але былы дырэктар завода Ўладзіслаў Шыпіцын, перад тым як пайсьці з заводу, прадаў лінію ў Расею.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



# Рыдлёўка як сродак "паскарэньня стабілізацыі"

Кадравыя перастаноўкі, пра якія абвесьціў прэзідэнт Лукашэнка ў аўторак на сумесным паседжаньні Кабінэта міністраў і Савету бясьпекі, чакаліся і прадказваліся яшчэ ў жніўні, пісала пра гэта і СВАБОДА (гл. №32). Так што ў пэўным сэнсе гэта не навіна, што сыходзіць з пасады кіраўнік адміністрацыі Леанід Сініцын, а на ягонае месца заступае Міхаіл Мясьніковіч.

Да зьменаў у бліжэйшым атачэньні прэзідэнта вышэйшая публіка была гатовая, менавіта таму і спэктакаль у былым ЦК пад назваю "сумеснае паседжаньне" яна ўспрымала даволі халодна. Галоўны актор, які іграў на сцэне прэзідэнта, крыху адышоў ад тэксту, крыху разлаваўся на калегаў, але яму гэта можна даравать ("ну, быў ня ў форме"). Затое як добра ўсё скончылася: публіка зрабіла сапраўдную авацыю "маэстра", які зноў прадэманстраваў непараўнальны талент бараніць простых людзей і адпраўляць у чорнарабочыя міністраў, а пасьля мірна паклалася ў свае халодныя ложкі. "Так ім і трэба", — адначасова пачулася з тысячаў куткоў краіны ў бок віцэ-прэм'ера Куранкова, сталічнага мэра Ярмошына ды міністра будаўніцтва Навіцкага, якіх прэзідэнт абвінаваціў у тым, што не выплочваюцца заробкі, не прадаецца танны вінаград, не будуюцца дзяржаўныя кватэры і г.д.. Па логіцы тэлегледача якраз і атрымлівалася, што сваіх бліжэйшых паплечнікаў (Сініцына і Даўгалёва) прэзідэнт кідае на важнейшыя ўчасткі прамысловага фронту, як Ганібал кідаў у прарыў любімых сланоў.

Між тым, кампэтэнтнай публіцы відавочна, што гэта толькі "п'еса для мэханічнага піяніна". Пройдземся па яе нотах. Бадай, самы гучны акорд — дамінант-сэптакорд апошняга года — спадар Сініцын. Якога б адценьня ні былі яго палітычныя погляды, ён застаўся на пазіцыях дзяржаўніка, ва ўсялякім разе падтрымліваў гэтую мэлодыю. Відавочна, што рана ці позна такі настрой павінен быў не спадабацца Лукашэнку, які свой уласны камэртон настроіў зусім на іншую ноту. У сярэдзіне лета ўплыў палкоўніка Замяталіна ўзрос настолькі, што некаторыя музычныя аглядальнікі справядліва вызналі за ім ролю галоўнай скрыпкі ў дзяржаўным аркестры пад кіраўніцтвам "маэстра", і гэта было ўжо дастатковай падставай, каб сьцьвярджаць, што Сініцына хутка здымуць. Прызначэньне на ягонае месца Міхаіла Мясьніковіча — гэта па ўсіх паказьніках не эканамічны, і тым больш не палітычны выбар. Хутчэй — гаспадарчы. Прэзідэнту на пасадзе галавы адміністрацыі патрэбны чалавек, які ня горш за Івана Іванавіча можа лічыць, зарабляць, траціць ды кантраляваць маёмасьць, паперы ды грошы. Каб адзін аднаго пільнавалі. І да гэтага "кадравага" кроку Лукашэнка канчаткова падрыхтаваўся, звазіўшы ў Маскву Ціцянкова разам з Мясьніковічам.

Але, як мы памятаем, менавіта ў той час, калі зьявіліся першыя чуткі пра адстаўку Леаніда Сініцына, узмацніліся пазіцыі Васіля Даўгалёва, які набыў статус намесьніка кіраўніка адміністрацыі. Цяперашняя раптоўная перастаноўка прэзідэнцкага кантралёра на віцэ-прэзідэнцкія хлябы паказвае, што гэта была часовая перамога Сініцына, якая не дасягнула сваёй мэты, а хутчэй сапсавала Даўгалёву ягоную кар'еру. Зьвязку Сініцын—Даўгалёў прэзідэнт адапхнуў на другасныя ролі, будучы яўна не ў захапленьні ад яе патэнцыялу, які можа быць скіраваны супраць яго самога. Але наколькі гэта прадбачліва? Пакруціўшыся на вышэйшых пасадах у эканоміцы, гэтыя ў мінулым кіраўнікі сярэдняга ўзроўню набываюць унікальны вопыт і могуць у любы момант асьмеліцца на самастойнае палітычнае плаваньне. Што, калі насуперак цячэньню? Яшчэ адзін-двое такіх сьмелых, як Станіслаў Багданкевіч, — для Лукашэнкі пакуль асаблівай небясьпекі не ўяўляюць. Але колькасьць адступнікаў можа дасягнуць і крытычнай мяжы.

Добра відаць: каб выключыць рызыку, прэзідэнт набліжае да сябе былых вайскоўцаў ды іншых спэцыялістаў па сілавых сродках. Віктар Шэйман утрымаў свае пазіцыі каля прэзідэнта. Уладзімер Замяталін значна пашырыў свой уплыў. Міхаіл Сазонаў, як мяркуюць, хутка заменіць Юрыя Захаранку. У якасьці кандыдатаў называюць таксама Юрыя Малумава, што ня мае прынцыповай розьніцы. А хто зойме выключна важную цяпер пасаду кіраўніка Службы кантролю? Калі ўжо даваць дарогу афіцэрскаму корпусу, то лепш за іншых на гэтую ролю падыходзіць Віктар Кучынскі, часова пазбаўлены ўласнага гранамёту, але не пазбаўлены пачуцьця адказнасьці за лёс краіны і яе прэзідэнта. Дакладна вядома, што Кучынскі апошнім часам значна прыбавіў ня толькі ў палітычнай вазе, стаўшы двойчы дэпутатам, але і ў вазе фізічнай (тыя, хто бачыў яго пасьля летняга адпачынку, пацьвярджаюць, што Віктар Францавіч набыў выгляд чалавека вельмі мажнога і сур'ёзнага). Дасягнуць гэтага сп.Кучынскаму дапамаглі штодзённыя трэніроўкі ў спартовай зале. Штанга, турнік, а таксама мэтанакіраваныя ўдары кулаком па розных цьвёрдых прадметах загартавалі ягоныя мышцы ды суставы. Самы час адпраўляцца па загаду прэзідэнта на рашучы бой з чынавенствам, *"браць за горла бюракратаў"* ды вытрасаць з іх запазычанасьці па заробках, танны малдаўскі вінаград ды дзяржаўнае жыльлё. Інакш, зноў жа цытуючы прэзідэнта, давядзецца *"махаць рыдлёўкай"*.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## Парадаксальны выпадак:

*прэс-служба Вярхоўнага Савету зьвяртаецца ў рэдакцыю СВАБОДЫ з просьбай апублікаваць Законы Рэспублікі Беларусь. Падобныя матар'ялы заўсёды ахвотна друкавалі парламанцкая "Народная газета" і "Звязда". А цяпер не друкуюць, адмаўляюцца.*

*Газэта СВАБОДА, якая кіруецца прынцыпам даваць слова тым, каму "перакрываюць кісларод", сёньня ахвяруе частку сваёй газэтнай плошчы на публікацыю двух Законаў (тэксты друкуюцца ў адпаведнасьці з арыгіналам, завераным пячаткаю сакратарыята Вярхоўнага Савету).*

### *Закон Рэспублікі Беларусь*

**Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь"**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

І. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1989 года "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №1—2, арт. 3) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы другой артыкула 56 словы "пры ўмове, што колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата ў дэпутаты, больш за колькасць галасоў, пададзеных супраць яго" выключыць.

2. У частцы другой артыкула 57:

трэці сказ пасля слоў "Паўторныя выбары" дапоўніць словамі "ў першым і другім туры галасавання";

пасля слоў "прынялі ўдзел больш" лічбы "50" замяніць лічбамі "25";

чацвёрты сказ пасля слова "Выбраным" дапоўніць словамі "у першым туры галасавання";

3. Дапоўніць артыкул 57 часткай наступнага зместу:

"Другі тур галасавання пры паўторных выбарах праводзіцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 56 гэтага Закона".

ІІ. Увесці гэты Закон у дзеянне з моманту яго апублікавання.

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь* *А.Лукашэнка*

7 верасня 1995г., г.Мінск
№3857-ХІІ

*Закон лічыцца падпісаным згодна з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь*

### *Закон Рэспублікі Беларусь*

**Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь"**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

І. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1989 года "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., №9—10, арт.113) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы другой артыкула 53 словы "пры ўмове, што колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата ў дэпутаты, больш колькасці галасоў, пададзеных супраць яго" выключыць.

2. У частцы другой артыкула 54:

трэці сказ пасля слоў "Паўторныя выбары" дапоўніць словамі "ў першым і другім туры галасавання";

пасля слоў "прыняло ўдзел больш" слова "палавіны" замяніць словамі "25 працэнтаў";

чацвёрты сказ пасля слова "Выбраным" дапоўніць словамі "у першым туры галасавання";

ІІ. Увесці гэты Закон у дзеянне з дня яго апублікавання.

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*

*А.Лукашэнка*

7 верасня 1995г., г.Мінск
№3858-ХІІ

*Закон лічыцца падпісаным згодна з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь*

# На кожнага беларуса — па тоне бульбы

**Статыстыка сьцьвярджае, што кожны беларус зьядае ў год каля чатырох мяхоў бульбы (170 кг). Але з кожным годам мы спажываем яе ўсё меней. Параўнайце: у 70-я гады, напрыклад, мы зьядалі амаль па 250 кг. Аднак гэты прадукт і сёньня застаецца ў нас адным з найбольш папулярных і даступных. Бульба, як кажуць, яна і ў Афрыцы бульба, хоць там на адну афрыканскую душу яе прыпадае на год усяго па 5 кг.**

Як прагназуе міністэрства сельскай гаспадаркі, сёлета Беларусь мае шанцы накапаць 9,6 млн. тон клубняў,з іх калгасы і саўгасы — усяго 1,5 млн. тон. Гэта значыць, што "другі хлеб" мы атрымліваем галоўным чынам у прыватным сэктары. Пракорпаўшыся ўсё лета на сваіх "сотках" і "дзялках", руплівыя гаспадары ня толькі забясьпечылі саміх сябе, але і на продаж маюць.

Большасьць прыватнікаў імкнецца прадаць лішкі свайго ўраджаю гуртам — калгасам або спажывецкай каапэрацыі. Але сёньня сітуацыя складваецца не на карысьць уладальнікаў падсобных гаспадарак. Бо ў самой дзяржавы ўзьніклі праблемы з рэалізацыяй бульбы (105 тыс.т.) па міжнародных дамовах з краінамі СНД. Мэр Масквы Лужкоў падчас свайго візіту ў Менск таксама абяцаў купіць 12 тыс.тон беларускай бульбы, але масквічы ўзялі пакуль толькі 1,5 тыс. т.

Намесьнік начальніка ўправы міністэрства сельскай гаспадаркі Аляксандар Белавусаў паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што Масква ўжо амаль забясьпечыла сябе бульбай. Пры гэтым ён адзначыў, што "ўрад Масквы выдае крэдыты мэтанакіравана — для закупкі бульбы толькі ў расейскіх вытворцаў", якія дзеля рэалізацыі зьніжаюць закупачныя цэны. Менавіта так зрабілі гаспадаркі Чувашыі — і такім чынам зацікавілі расейскія камэрцыйныя структуры, якія займаюцца закупам бульбы. Безумоўна, купляць будуць там, дзе выгадней. Акрамя таго, сп.Белавусаў паведаміў, што "пастаўкі бульбы стрымліваюцца з прычыны недахопу фінансавых сродкаў у замежных пакупнікоў". Таму ня выключана, што з маскоўскім кантрактам будзе тое самае, што нядаўна з узбэцкім — бавоўнавым...

Дарэчы, беларускія дзяржаўныя нарыхтоўшчыкі-перапрацоўшчыкі таксама цяпер пакутуюць ад адсутнасьці грошай. Крухмальныя і сьпіртовыя заводы, ня маючы абаротных сродкаў і шанцаў атрымаць крэдыты, ня ў стане купіць бульбу. Таму сёньня яны працуюць на палову магутнасьцяў або зусім прастойваюць.

Тым часам самыя адважныя старшыні калгасаў, пакінуўшы ўсе спадзяваньні на дзяржзакупы, намагаюцца самастойна заваяваць расейскія рынкі. Але гэта справа небясьпечная. У кабінэтах міністэрства сельскай гаспадаркі давялося пачуць такую гісторыю. Адзін дырэктар саўгасу, загрузіўшы тры "КамАЗы" бульбай, махнуў у Піцер — гандляваць. Памыкаўшыся трое сутак па розных піцерскіх канторах, ён так і не знайшоў паразуменьня з чыноўнікамі: кожны хацеў атрымаць "на лапу".Тады ён вырашыў паспытаць шчасьця на базары, але там яго чакалі новыя праблемы — рэкет. Крутыя хлопцы паставілі больш жорсткія ўмовы: або ён прадае бульбу за палову цаны, або плоціць "падатак" (тысячу даляраў за машыну) — і яго адпускаюць жывым. Давялося гаротніку адкупіцца ды ўцякаць дамоў.

Што ж, рынак — рэч тонкая, асабліва калі з сацыялістычным ўхілам.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Галадоўка ў прыёмнай дырэктара

**У панядзелак 2 кастрычніка рабочы магілёўскага завода "Зеніт" Мікалай Расюк абвесьціў галадоўку ў прыёмнай дырэктара прадпрыемства.**

М.Расюк заявіў, што ня спыніць галадоўку, пакуль рабочым нарэшце ня выдадуць заробак за жнівень. Да ягонай акцыі зьбіраюцца далучыцца іншыя рабочыя, а таксама старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Сяргей Абадоўскі. Рабочыя маюць намер дадаткова вылучыць пытаньне аб працы. Рэч у тым, што дырэкцыя прадпрыемства плануе ў бліжэйшыя два месяцы скараціць колькасьць працаўнікоў амаль удвая.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## На магілёўскім аўтазаводзе — прыехалі

**На Магілёўскім аўтазаводзе створаны страйкам.**

Рабочыя вырашылі правесьці пазачарговую канфэрэнцыю працоўнага калектыву і вынесьці на яе пытаньне аб даверы дырэктару завода А.Бунасу. Два гады таму на заводзе праводзіўся нават рэфэрэндум, на якім рабочыя адхілілі кандыдатуру сп.Бунаса, але той застаўся кіраваць. За правядзеньне канфэрэнцыі выступілі абодва прафсаюзы — афіцыйны і свабодны. Рабочыя таксама патрабуюць выплаты заробку за жнівень. Адміністрацыя прадпрыемства тым часам адпраўляе 60% рабочых (2,5 тыс. чалавек) у неаплочваемы адпачынак.

**Іван ЗАСІМОВІЧ**

## Базіс і надбудова

**Ужо пяты год у Наваполацку займаецца бізнэсам былы студэнт, а зараз асьпірант Наваполацкага дзяржаўнага ўнівэрсітэту сірыец Салім Алі.**

Сёлета ён вырашыў узьвесьці ў горадзе офіс сваёй фірмы "Дамаск". Наваполацкія ўлады прапанавалі бізнэсмэну незвычайнае месца — непрацуючую грамадзкую прыбіральню. Плануецца ўзьвесьці над прыбіральняю 3-павярховы будынак, дзе разьмесьцяцца крамы, філія аднаго з беларускіх банкаў і офісы некалькіх фірмаў. У сутарэньнях будынка, па патрабаваньні ўладаў, будзе захаваная грамадзкая прыбіральня.

**Васіль КРОКВА**

## Колькі давалі — столькі і браў

**Упраўляючы аднаго з аддзяленьняў Ашчаднага банку ў Бабруйску абвінавачваецца ў атрыманьні хабару ў памеры больш за 100 млн. рублёў.**

Падчас папярэдняга сьледзтва высьветлілася, што банкір атрымліваў "навар" ад мясцовага прадпрымальніка, якому дапамагаў пераводзіць грошы ў наяўныя. Міліцыі дакладна вядомыя 50 выпадкаў такога кшталту фінансавых апэрацыяў. Такім чынам ім удалося абнаявіць больш як 3 млрд. рублёў.

**Іван ЗАСІМОВІЧ**

## Кожнае трэцяе злачынства застаецца нераскрытым

**На сэсіі Гарадзенскага абласнога савету дэпутаты заслухалі справаздачу начальніка абласнога ўпраўленьня міліцыі палкоўніка Белашэўскага.**

Карціна даволі змрочная: за 8 месяцаў гэтага года зьдзейсьнена 6000 злачынстваў, што на 10% болей, як за адпаведны пэрыяд мінулага года. Асабліва небясьпечная сітуацыя склалася ў Воранаўскім раёне, дзе рост злачынстваў склаў 43%. Колькасьць разбояў і забойстваў у вобласьці набліжаецца да 3 тысячаў, а колькасьць аўтамабільных аварыяў вырасла на 21,4%, у іх загінулі 162 чалавекі.

Як звычайна, палкоўнік Белашэўскі наракаў на матар'яльныя фактары — тэлефонная сувязь кепская, ва ўпраўленьні не хапае 130 супрацоўнікаў, бо няма грошай на павелічэньне штату...

Маўляў, з гэтых прычынаў кожнае трэцяе злачынства ў вобласьці застаецца нераскрытым. Да ўсяго, толькі ў гэтым годзе 273-х супрацоўнікаў міліцыі прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасьці, 41-го — звольнілі, у дачыненьні да 16-ці — узбуджаныя крымінальныя справы; вызваленыя ад пасадаў начальнікі Іўеўскага і Ашмянскага РАУС.

**М.МІКАЛАЙЧЫК**

## Хлеба няма, а ім сьвята давай

**На сустрэчы з кіраўніком аблвыканкаму А.Дубко гарадзенскія вэтэраны цікавіліся найперш ільготамі.**

Вэтэраны лічаць, што прэзідэнт перагнуў палку, бо скасаваньне ільготаў выгаднае толькі БНФ. А грошы для папаўненьня бюджэту, на іх думку, трэба браць толькі з багатых, а не з пэнсіянэраў.

У "апраўданьне" прэзідэнцкай палітыкі сп.Дубко прывёў лічбы, што ў вобласьці 316,5 тысячы пэнсіянэраў, з іх больш за 41 тысячу працягваюць працаваць. За верасень гэтыя людзі павінны былі атрымаць ажно 121,1 млрд. рублёў пэнсіі. Пасьля ж указу прэзідэнта коштам гэтых людзей дзяржава зможа заашчадзіць 3,3 млрд. рублёў — вось і прыбытак.

Не дае спакою вэтэранам пакінутая дзе-нідзе беларуская сімволіка. Пэнсіянэры абураюцца, што ня ўсе дзяржаўныя ўстановы пасьпяшаліся выканаць "волю народа" (павесіць герб з каласкамі). На гэта Дубко адказаў з гонарам: "Хай бяруць прыклад з аблвыканкаму, мы замянілі ўсё". Напрыканцы сустрэчы адзін з кіраўнікоў вэтэранскай арганізацыі запатрабаваў, каб абласная адміністрацыя выдаткавала 15 млн. рублёў на належнае сьвяткаваньне "Великого Октября". Адказ быў адназначны: "Грошы знайду!".

**В.М.**

*Ліст у рэдакцыю*

## Скажу вам як доктар: мэдыцына хранічна хворая

Шаноўная рэдакцыя!

У гэтым лісьце я хачу закрануць праблему, якая мала асьвятляецца ў прэсе, у тым ліку і ў СВАБОДЗЕ. Гаворка ідзе пра мэдыцыну.

Усюдыісны беларускі прэзідэнт дабраўся нарэшце і да гэтай сфэры, прыцісньуўшы мэдыцыну шэрагам сваіх адміністрацыйных "новаўвядзеньняў" ды налётамі розных кантралёраў. Такое ўражаньне, нібыта робіцца гэта дзеля цікавасьці — "а як там мой народ лечаць?". Хоць, каб даведацца, "як лечаць", можна было б проста зьезьдзіць са сваім радыкулітам не ў Маскву, а, напрыклад, у Шклоўскую райбальніцу. Але розьніца паміж народам і народным прэзідэнтам ужо занадта вялікая, і ня кожны з таго народа можа трапіць цяпер нават у сельскую бальніцу. А калі і трапіць, то сустрэне яго там доктар, узброены анальгінам-дымэдролам на ўсе выпадкі жыцьця, ды мэдсястра з тупымі іголкамі шматразовых шпрыцоў.

І гэта не перабольшваньне. Літаральна некалькімі назвамі абмяжоўваецца сёньня лекавы запас шпіталяў. Катастрафічна не хапае сістэм для пераліваньня крыві, сродкаў наркозу, перавязачнага матар'ялу, бялізны, рэнтгенплёнак і г.д. Бальніцы ня маюць сродкаў разьлічвацца за камунальныя паслугі, харчаваньне, інвэнтар, мэдыкамэнты. Даўгі растуць з кожным днём. У многіх буйных шпіталях у жніўні яны склалі больш за 10 млрд. рублёў. У бюджэце з цяжкасьцю знаходзяцца грошы на выплату зарплаты. Праўда, праблему "лекавага дэфіцыту" крыху вырашае гуманітарная дапамога. Але ўрэшце катастрофа непазьбежная, тым больш што ніхто з кіраўнікоў ад мэдыцыны не спрабуе шукаць рэальнага выйсьця з такога становішча. Нашая дзяржава ўжо ня ў стане ўтрымліваць "бясплатную і агульнадаступную" мэдыцыну, а грознымі ўказамі і загадамі, якія абавязваюць за кожную таблетку расьпісвацца пацыенту, двум лекарам і дзьвюм сёстрам, яе не ўратаваць.

У такой сітуацыі можа зьявіцца простае і "эканомнае" рашэньне: няма грошай — будзем зачыняць аддзяленьні, бальніцы, скарачаць "койкі". Маўляў, на Захадзе колькасьць шпітальных месцаў у 2—3 разы меншая за нашую. Але трэба ўлічваць, што бальніца ў нас выконвае крыху іншыя функцыі, як на Захадзе. У нас гэта і часовы прытулак для састарэлых, і месца адпачынку ад разнастайных сацыяльна-бытавых праблем, а галоўнае — фільтар шматлікіх дашпітальных памылак і апошняя надзея атрымаць больш-менш кваліфікаванае лячэньне. На Захадзе, дзе ёсьць моцная сістэма пазабальнічнага абслугоўваньня, лячэньня ў хатніх і амбулаторных умовах, дзе іншыя сацыяльныя патрабаваньні і грамадзкія прыярытэты, — патрэба ў стацыянарных койках значна меншая. А ў нашых умовах, пры нізкай кваліфікацыі дактароў, дрэннай арганізацыі працы і кепскім матар'яльным забесьпячэньні паліклінікаў істотнае скарачэньне коечнага фонду рэзка пагоршыць якасьць мэдычнай дапамогі. Таму само па сабе скарачэньне праблемы ня вырашыць, а шкоды хворым можа нарабіць шмат.

Патрэбная комплексная рэформа ўсёй сістэмы аховы здароўя, мэтадаў кіраваньня, планаваньня, атэстацыі, а галоўнае — раўнапраўнае разьвіцьцё яе розных формаў: дзяржаўнай, страхавой і прыватнай. Бо ўжо сёньня здараецца, што чалавек, які хоча і можа заплаціць грошы за больш якаснае лячэньне, усё адно вымушаны карыстацца агульнадаступным і малакваліфікаваным. Дарэчы, славуты лозунг аб "агульнадаступнасьці" абарочваецца тым, што даступны — толькі свой участковы лекар, а калі ён не задавальняе вас па нейкіх прычынах, то пачынаецца сапраўдная недаступнасьць — да вузкага спэцыяліста, кансультанта ці проста да добрага лекара.

Тое самае і з бясплатнасьцю. Многія людзі даўно скемілі, што задарма можа ўскочыць толькі скула, а лячэньне — усё ж такі праца, ня самая простая, ня вельмі лёгкая і не заўсёды ўдзячная. Таму яшчэ за савецкім часам зьявіліся "стаўкі" на розныя мэдычныя працэдуры і маніпуляцыі, асабліва ў буйных гарадах. І гэта нішто іншае, як рэаліі жыцьця і сьведчаньне старой сацыялістычнай хваробы — грамадзкай недаацэнкі працы мэдыкаў. А сёньня большасьць хворых прыходзіць у шпіталі са сваімі шпрыцамі, лекамі, купленымі на базары ці ў камэрцыйных аптэках, дзе няма праблем з грашыма ці недапастаўкамі. Колькасьць такіх лекаў у тэрапэўтычных аддзяленьнях складае 60—70%. А гэта прама сьведчыць, што нашая мэдыцына ўсё менш бясплатная і трэба нарэшце афіцыйна прызнаць такі факт! А яшчэ лепш заканадаўча аформіць яго і паставіць на службу людзям і дзяржаве. Бо мэдыцына ў нармальным цывілізаваным грамадзтве — ня тое што бясплатная, а, бадай, самая дарагая рэч. А там, дзе яна ня цэніцца, — грамадзтва цяжка хварэе і дэградуе.

Аднак, пакуль што нашая невялікая "паліцэйская дзяржава", здаецца, не зьбіраецца мяняць старых догмаў, пакідаючы першыя месцы ідэалогіі, войску, розным "органам" і калгасным клопатам. Мэдыцына ж зноў ідзе ззаду "генэральнай лініі" і вымушана або быць "бясплатнай і даступнай", або наагул ня быць. Таму той, хто ня мае магчымасьці падлячыць радыкуліт у Маскве ці Нямеччыне, мусіць пэрайсьці на лячэньне голадам або рэгулярнымі сэансамі прэзідэнцкага тэлегіпнозу.

Будзьце здаровыя!

**С.КУЛАПСКІ, Магілёў**

